Настасся НАРЭЙКА

# ХТО МНЕ СКАЖА, КАЛІ НЕ ТЫ?

*Паэма*

**1**

Яны даўно не плачуць. Даць бы рады.
У сеткі рыба зноў ісці не хоча.
У сеткі сыплюць толькі зарапады.
Я вызваляю зоркі з лёскі ноччу.

Яны даўно не плачуць. Сэнсу мала.
Тут плача толькі вецер сумнай скрыпкай.
А я маліцца ноччу перастала,
Каб зорка ў сетцы стала звонкай рыбкай.

Яны мяне спыняюць на світанні,
Пытаюцца: «Сястра, што з намі будзе?
Што Бог табе сказаў на развітанне?»
«Ён не прыйшоў, на жаль. Прабачце, людзі».

Яны даўно не плачуць. Бо нярварта.
І я маўчу, і Бог маўчыць, і неба.
І зоры там, высока, нібы карта.
Навошта сыпаць іх дажджом у невад?

Я ведаю, усё калісь мінае,
І час любыя выпраўляе хібы.
Мы — лішнія. А гэта азначае,
Што толькі кропкі мы ў сузор'і Рыбы.

І прыйдзе час. І з'явіцца Адзіны.
І будзе тое, што было спрадвек.
Пустыня… О, даруй мае правіны!
Дзве плоткі — і 5 000 чалавек.



***Настасся Нарэйка нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Навіны Камянеччыны». Друкавалася ў часопісах «Полымя», «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва» і іншых выданнях. Спрабуе сябе і ў паэзіі, і ў прозе.***

**2**

**МАНАЛОГ РАГОЖЫНА**

Настасся Піліпаўна! Гэта вар'яцтва і толькі!
У што вы гуляеце сёння? Я ўжо праіграў?

Настасся Піліпаўна! Я не прынёс дубальтоўкі!
Настасся Піліпаўна! Нож я таксама не ўзяў!

Я проста прыйшоў, каб укленчыць ля вас і скарыцца,
Каб край ад сукенкі зялёнай крадком цалаваць.
Вы — болю майго невычэрпная, злая крыніца.
Я вас праклінаў, але больш не магу праклінаць.

Настасся Піліпаўна! Бразніце звонка дзвярамі!
Ганіце мяне, як сабаку. Я варты таго.
ЁН вечна стаіць і стаяў ад пачатку між намі.
ЁН проста бароніць, і я разумею ЯГО.

Вось толькі адно мне няўцям, хто ахвяра між намі?
Ці я, што да крыку, да болю заўжды вас любіў?
Ці вы, што хваробу маю вымяралі рублямі?
Я дурань сляпы. Я сваю дубальтоўку забыў.

Настасся Піліпаўна! Вам я, напэўна, не пара,
Ды сэрца маё разрываецца зноў надвая.
А ЁН гаварыў, што любоў — гэта больш, чым ахвяра.
ЁН слушна казаў. І таму гэтак змучаны я.

ЁН вечна прыходзіць пад вечар і доўга, маўкліва
У вочы глядзіць, як сава з учарнелых хмызоў.
Ён бачыць: мне страшна. А потым сыходзіць імкліва.
А вочы ЯГО застаюцца, глядзяць з абразоў.

Я нешта ЯМУ гавару — ЁН нібыта не чуе,
ЁН быццам мяне ў глыбіні неадольна баіцца.
ЁН нібы з мяне дрэвы злосці з карэннем карчуе.
Што з ІМ гаварыць? На ЯГО можна толькі маліцца!

Я плачу прад вамі, прад ІМ я не плачу ніколі.
ЁН бачыць да дна ўсё маё закарэлае сэрца.
Чытае яго. «Гэта крыж твой». Я знаю, нядоля!
…ЁН кнігу пакінуў, што Бібліяй ціха завецца…

Настасся Піліпаўна! Хто і каму пакаранне?
Я сёння чытаў і аслеп ад вялікага ззяння.
Вы так не палалі ніколі, ніколі! Паданне
Старое, ды веру яму. Вось маё пакаранне.

Не вы мне пакута. Не вы! А ЯГО дараванне.
ЁН мне дараваў! Нават загадзя! Дурань? І што ж?
Падвесці ЯГО не змагу. ЁН чакае. Змяркание…
ЁН ведаў даўно, што я ў вас усаджу гэты нож…

**3**

Нам няма ні канца і ні краю.
Мы жывём, бо не можам іначай.
Мы зачаста гаворым «кахаю»
І зарэдка па шчырасці плачам.

Нам няма ні канца і ні краю.
Мы жывём — не баімся нічога.
Мы бяжым ад тугі і адчаю
І паўсюль упіраемся ў Бога.

Нам няма ні канца і ні краю,
Ані страху ўнутры, ні сумнення.
Так далёка ад пекла і раю.
Мы жывыя. Да часу. Імгненне…

Нам няма ні канца і ні краю.
Нам звычайная дробязь — навала.
Мы галосім: «Ратуйце! Знікаю!»
Мы галосім, ды гэтага мала.

Нам няма ні канца і ні краю.
Мы як дзеці. Мы ўсе без правіны.
Мы блукаем: блукаеш, блукаю…
Мы жывём і не лічым гадзіны.

Нам няма ні канца і ні краю.
Мы бязглуздыя, злыя стварэнні.
Нам не месца на краечку раю.
Нам турмою — зямлі сутарэнні.

Нам ніхто не даруе нічога.
Не даруе грахоў нашых, знаю.
Наш ратунак адзіны — ад Бога,
Бо яму ні канца і ні краю.

**4**

Хай бэзам прапахлі надзеі, пранізлівым бэзам.
Мы судзім ізноў. О, куды мы, праклятыя, лезем?

Чытаем чужыя лісты — прабачэння не просім.
Высоцкі крычаў: «Не люблю!» Ды абыдзецца. Восень…

Мы нервы чужыя ірвём, як гітарныя струны,
А потым у вочы глядзім — толькі позірк бяздумны.

Мы молімся надта старанна — не верац на небе.
Мы просім заўсёды адзіна аб шчасці і хлебе.

А хлеб каласамі ў шырокае неба імкнецца,
А шчасце зусім ненадоўга наведвае сэрца.

Маліся і болю прасі. Ён табе нагадае,
Што тым, хто пакутуе, Бог на зямлі спагадае,

Што боль — напамін аб тваім на зямлі існаванні,
Душа праз яго паўстае ў самым радасным ззянні,

Чысцее, святлее, празрысцей стае (і з разрэзу),
А потым асыплецца ўніз, нібы зорачкі бэзу.

**5**

Хто мне скажа, калі не Ты?
Хто Твой верад, калі не я?
Хто пацягне мяне з нематы,
Як не Ты? Я Твая змяя.

Я спакусу нясу далей
Я прыгрэты пякельны грэх
Пагадзіся: са мной весялей!
Я пажар, я пачну са стрэх.

Толькі ноччу, калі мая
Чарната лепш відаць, чым Ты,
Разумею, што пекла ўсё ж я,
І навокал — драты, драты.

І навокал — абшар пусты,
І не вырвацца з дратаўя.
Хто ўратуе мяне, як не Ты?
Хто адценне Тваё, як не я?